# ЗВОН

Беларуская штодзенная палітычна-літэратурная часопісь.

Рукапісы павінны быць перапісаны чытальна. Аплата прынятых рукапісау залежыць ад рэдакцыі. Рукапісы назад не выдаюцца.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: м. Менск, Юбілейны дом.

Цана нумару 1 марка.

ГОД ВЫДАНЬНЯ І.

РЭДАКЦЫЯ адчынена штодня ад 9—12 гадз. і ад 5—7 гадз.

Цана абвестак:

за 1 радок за тэкстам . 2 м.
шукаючым працы, за абвестку . . . . 2 м.

№ 10. Менск, Панядзелак, 15 верасьня 1919 г. № 10


Дзеле вялікага недахвату паперы, газэта часова выходзіць тры разы на тыдзень: у **панядзелак, сераду і пятніцу.**

## З ПАВЯУШАЙ СЛАВЫ.

З павяушай славы бышых дзен,
З магільных прадзедавых крас,
Пад стогн няволі, путау звон
Мы зложым песьню, зложым сказ,
А так агністы, як пажар,
А громкі так, ак грому удар.
І так, каб чуу і брат і кат
З нізін-далін, з высокіх гор,
Ад меж да меж, ад хат да хат
Зайгралі сьвету у дружны хор
З жыцьцем у тон, з віхрамі у тон
Пра свой папас, пра свой палон.
Хай тое усё, што спало у сьне,
Паустане явою жывой
І сьветам блудным здрыгане
І панясе скрозь сьветач свой
Ад края у край, між сьпячых сіл,
Аж там—да бацькаускіх магіл!

**Янка Купала.**

Калісбэрг, 21 VIII 1919 г.

## Вільня—сталіца Беларусі.

На газэтах прайшла вестка, што ангельскі урад прызнау Вільню за сталіцу Літвы.

Перш-на-перш вестка гэта няпэуная і патрабуе праверкі, а потым—вельмі ня ясная, бо паустае пытаньне: якой Літвы? Вялікай, гістарычнай Літвы, вядомай пад назвай В. К. Беларуска-Літоускага, ці Літвы сучаснай, на чале каторай стаіць Тарыба?

Мы ня думаем, каб ангельцы маглі, як сьледна, разьбірацца у тых адносінах, якіе цяпер пануюць на тэрыторыі вялікай гістарычнай Літвы,—яны зацікаулены у Літве эканамічна, а таму ахвотна маглі паверыць міністрам з Тарыбы, што была некалі Літоуская дзяржава з сталіцаю у Вільні і што праз гэта літоуцы *адны* зьяуляюцца гаспадарамі гэтага места.

Само сабою разумеецца, літоускіе міністры не сказалі ангельцам, што цяперашняя Вільня носіць чыста польскі імпат, што кругом Вільні жыве чыста беларускае насяленьне і што Вільня есьць цэнтр усяго краю гістарычнай Літвы. Яны проста выкарысталі заблутаны погляд на гістарычную Літву і пастараліся давесьці, што літоуцы колісь складалі асобную дзяржаву з сталіцай у Вільні, потым занялалі, а цяпер хочуць вярнуць страчанае.

Тым часам, гістарычна справа абстаяла саусім іначай. Літоускай дзяржавы ніколі ня было,—было Вялікае Князьство Беларуска-Літоускае, у каторым Літва, як племя, ня мела жаднай дзяржаунасьці. В. К. Беларуска-Літоускае з самага пачатку свайго было Беларускім, а так звалося толькі па тэй тэрыторыі, дзе яно залажылося, як колісь Маскоускае царство звалося не Расіяй, а проста Масковіяй. І князі Беларуска-Літоускага Князьства былі роду славянскага, патомкі полацкіх князеу Рагвалодавічау. Так гаворыць нам сапраудная гісторыя, каторая сьведчыць, што літоуцы уходзілі у склад Беларуска-Ліоуоускага Князьства, як беларусы або украінцы у склад бышай Расіі.

Такім чынам, калі апірацца на чыстую гісторыю, то гэта беларусы маюць права на Вільню, а ня літоуцы. Іх гісторыя гэта—легенда, міѳам, як міѳам зьяуляецца легенда аб літоускім Крыве-Крывейту, сама назва каторага не магчыма на літоускай мове.

Вільня належыць да самых даунейшых славянскіх сялібау. Вучоные кажуць, што першымі будаунікамі гэтага гораду былі славяне з племя Валоты, або Вількі. Васкрасенская летапісь кажа, што каля 1128 г., калі Мсьціслау Вялікі напау на землю Крывічоу, то ваколічнае насяленьне места Вільні выбрало сабе за князя Расьціслава Рагвалодавіча,—славяніна, з роду князеу Полацкіх.

Мы заусюды казалі, што калі Менск—сэрцо Беларусі, то Вільня—яе галава, Вільня павінна быць сталіцаю Беларусі. Але разумеем мы гэта ось як:

Пры Гедыміну Вільня стала сталіцай гістарычнай Літвы. Усе цяперашніе адносіны паміж народамі, насяляючымі гістарычную Літву, гавораць нам за тое, што яна і павінна быць сталіцай усіх гэтых народау, *а ня тэй ці іншай народнасьці у асобку*. А стаушы сталіцаю усяе тэрыторыі б. князьства Беларуска-Літоускага, Вільня павінна прыдбаць сабе і сваю былую славу Зыгмунтоускіх часау. Чужаземцы пісалі тагды, што мала яны бачылі гэтакіх гарадоу, якім была Вільня. Іх дзівіла разнапляменнасьць насяленьня сталіцы: беларусы, літоуцы, палякі, жыды, немцы, туркі, грэкі, армяне, татары, хадзіушые у сваіх нацыянальных вопратках. Але іх яшчэ больш дзівіла тая братэрская згода, якая панавала у Вільні паміж гэтых народау, ня гледзячы на рознасьць рэлігійнага вызнаньня. Ня было рэлігійнай варажнечы, ня было фанатызму, і людзі жылі згодна, дружна,—вольна вызнаючы кожны сваю веру і звычаі і вольна разьвіваючы сваю культуру.

## Вольная Трыбуна.

### Імпэрыялізм расійскага духу.

Ад часу, як польскіе войскі звольнілі Менск ад маскоуска-бальшавіцкага панаваньня, мінуло адно толькі месяц.

Гэты месяц крывавае барацьбы прынес свой плён: аграмадный абшар заняты „чырвонымі камісарамі“, асвабоджаны з залезных ціскоу „бальшавіцкага раю“.

Што нясе будучына, трудна сказаць, але усе-ж пэуные дагадкі мажлівы. І, у зьвязку з гэтымі мажлівымі дагадкамі, кожны зацікаулены народ стараецца усе добра зважыць і абсудзіць.

Доля беларускага народу і на гэты раз залежыць больш ад волі і жаданьняу яе сільных суседзяу і тых, да каго наогул належыць цяпер права быць апекуном „малых народау“.

У зьвязку з гэткім становішчам хацелося-б у некольькіх словах затрымацца на характары і жаданьні суседзяу Беларусі.

З суседзяу Беларусі двое—Літва і Украіна, настолькі аслабнуты безупыннай барацьбой за свае існаваньне і настолькі зьвязаны характарам гэтае барацьбы з Беларусьсю, што іх жаданьні і прэтэнзіі да тэрыторыі Беларусі на гэтулькі незначны, што аб іх можна было-б і ня гутарыць.

Каменем патычкі між Літвою і Беларусьсю есьць—Вільня, т. е. нэрв жыцьця абодвых народау без якога, як аднаму, так і другому, жыць і разьвівацца нормальна цяжка і немагчыма. Але гэты камень спатычкі усе-ж пры узмацаваньні і добрай волі абодвых народау можа быць зсунуты.

Украіна і Беларусь каменем патычкі маюць лінію Бярэсьце-Прыпець-Гомель.

Але як у першым, так і у другім выпадку,—гэта будуць толькі спрэчкі аб межах, спрэчкі аб той ці іншай тэрыторыі, і толькі.

Гэтые спрэчкі зусім не чапаюць пытаньня аб істнаваньні таго або іншага народу, а наадварот, у зносінах між гэтымі народамі чуецца узаемнае для сябе падтрыманьне.

Двое другіх суседзяу—Польшча і Маскоушчына маюць ужо зусім іншы характар сваіх адносін і пажаданьняу.

Польшча, як прадстаунік культуры Захаду—мае сваім аснауным жаданьнем прылучэньне Беларусі да захадняе культуры, падняцьцем мясцовае культуры і адарваньне ад гнілога усходу.

Гэта агульнае жаданьне Польшчы у спосабе праводзін яго у жыцьце падзяліло польскае грамадзянство на дзьве часткі: адну якая гэта адарваньне Беларусі ад Усходу хоча зрабіць шляхам стварэньня з Беларусі проста Польшчы; другая—шляхам дапамогі беларускаму народу падняцца і вызваліцца з маскоускага уціску, каб пасьля злучыцца у хаурус „як вольны з вольным, роуны з роуным“.

Пакуль што большасьць мае другая частка—тая частка на чале якой стаіць наш зямляк, Язэп Пілсудзкі.

І пакуль гэты чалавек трымае руль Польскае Рэчы Паспалітай, пакуль ен не дае размаху і разгону шаленай нацыяналістычна-шовіністычнай рабоце польскіх эн-дэкау, мы можам і мы павінны сьмела ісьці нага у ногу з Польшчай, верючы, што гэтая „большая“ частка польскага грамадзянства здолае змагчы падалей ворагау адраджэньня і Польшчы і Беларусі як на унешнім, так і на унутраным фронтах.

Зусім асобнае становішчо займае усходні сусед Беларусі—Маскоушчына.

Маскоускі народ, дзякуючы сваей гісторыі, дзякуючы сваей усходна-азіяцкай культуры і уплыву векавога царызму на народную псыхолегію, ня можа мець у сваей гушчы іншых поглядау, апрача чыста імпэрыялістычных.

Сусьветная вайна, што пачалася не без малой віны Расіі і уся расійская рэвалюцыя і сучаснае яе становішчо даказалі праудзівасьць гэткага погляду.

Той, хто уважна сьлядзіу за гэтымі рухамі рэвалюцыі у Расіі, калі уладу у свае рукі брало на чарзе расійскае грамадзянство ад самых правых да самых левых і зноу да самых правых і ад самых дэмократычных да самых рэакцыйных слаёу, той відзеу і відзіць, што агульным жаданьнем Маскоушчыны есьць не дабрабыт свайго народу і народау суможных, а захват як мага „истинно“ і ня „истинно“ расійскіх зямель, увядзеньне „дабравольна“ усюды расійскае мовы і насаджэньне усюды свайго русыфікатарскага чынавенства.

Гэтак мы бачылі, што чыніу і Мікалай, меушы вялікую ахвоту прыдбаць тытул „Галіцыйскага“, „Царьградзкага“ і г. д. князя ці караля. Гэтак чыніу і хацеу мець прафэсарскіе расійскіе катэдры і хістаньне расійскага сьцягу ад Уладывастоку да Дарданэл і Кэнігсбэргу и. п. Мілюкоу, Керэнскі, Каледзін і п. ім.

Гэтак жа хацеу, а нат'куды больш абняць абшар, бо абшар усесьветны, і п. Ленін з Троцкім.

І ад гэткіх жа думак ня адкачацца і новы расійскі „спаситель“ Колчак—Дэнікін—Юдэніч.

І быццам у доказ гэтага уся расійская прэса у занятых польскімі, літоускімі, украінскімі войскамі тэрыторыі плача аб долі будучай „не бальшавіцкай“ Расіі.

І у кожным зыку гэтай старой на новы матыу песьні „расійскага імпэрыялізму“ чуецца адно: адбудова той самай аграмаднай „единой неделимой“.

Вось дзеле чаго уся расійская прэса, ня гледзючы на тое, што яе вызваліла да жыцьця Польшча, зьмяіным сыкам шэпча, у інтарэсах Польшчы не дапамагаць ні Украіне у барацьбе з Дэнікіным, ні Беларусі.

Вось дзеле чаго маскоуцы, ня могучы, дзякуючы свайму псіхолегічна-неразвітому духу, зразумець і пагадзіцца з тым, што ні на Беларусі, ні у Літве, ні на Украіне, ні на'т у Польшчы, яны не становяць ня толькі ніякай большасьці „государственной націи“, але на'т і „коренного населенія“, падымаюць галаву праз сваю прэсу.

Ім ня абходзіць доля папраудзі маскоускага народу, а яны больш заняты забяспекай сваіх чыноуніцкі-русыфікатарскіх мясцоу, як паразіты, на целі уваскрасаючых народау.

Імпэрыялізм маскоускага духу гэтак ясны, гэтак зразумелы, што трэба быць вельмі сьляпым, каб паверыць словам расійскае прэсы, аб тым, што „обновленная Россія“ ня будзе мець гэтага духу.

Для маскоускага грамадзянства ад самых левых да самых правых, ад самых дэмакратычных да самых рэакцыйных ясна адно і, як кажа „Мінскі Курьер“ „не падлягае сумленьню, што найбольш праудзі-

---

# Гутарка аб беларускай мове.

Кожнаму даводзілося спатыкаць з паміж, т. званых, інтэлігэнтау і з паміж простых людзей такіх, што мала ня з ненавісьцю глядзяць на беларускую кніжку, а ужо пра змаганьне шчырых беларусау за сваю школу, то і казаць німа чаго.

Адны з гэтых інтэлігэнтау, што стаяць за стары дзяржауны лад, хацелі-б сілай прымусіць усе народы бышай Расіі пакінуць сваю мову і перавучыцца на маскоускую. Гэтые „истинно-русские люди“ пастаянна крычалі, што мусіць быць адна вера і адзін народ. Яны катавалі, палілі людзей на вагні, за веру выразалі цэлые краі, але не дабіліся аднэй веры. Розные народы засталіся, жывуць і жыць будуць. Гэтак сама віхто відзе не дабіуся, каб усе гаварылі аднэй мовай.

Ня дзіва, што бышые расійскіе чыноунікі стаяць за абрусеньне, бо для іх ідзе пра тое, каб яны са сваею маскоускай мовай маглі служыць і у Польшчы, і на Літве, і на Украіне, і у нас, на Беларусі; каб усе іх разумелі, каб ім ня трэба было вучыцца мове таго народу, сярод якога яны жывуць. Нават большай часьцы расійскіх пісьменьнікау ці выдауцом расійскіх кніжак ды газэт выгадней, каб усе гаварылі расійскай мовай, каб іх кніжкі і газэты купляліся ды расходзіліся ня толькі паміж велікарусамі, а і паміж іншымі народамі

Але есьць шмат паступоуцау і соцыялістау, якіе так сама дбаюць пра тое, каб хутчэй зьявіліся усе мовы, каб быу адзін народ, адна нацыя, бо быццам тагды ня будзе тых варожых адносін, якіе есьць цяпер паміж розными народамі. Ня кажуць яны толькі пра тое, каб згінула расійская мова. Свайго шкода...

З паміж простых людзей есьць шмат такіх, што падвучыліся трохі маскоускай мове у салдатах, або на службе у месьце, і лічаць сябе чымсьці вышэйшым за „необразованнаго мужика“, з пагардай глядзяць на сваю родную мову, нават сьмяюцца з яе, зважаючы яе за „мужычую“. Пра тых людцоу, каторые саусім адбіліся ад народу, я ня буду гаварыць; я хачу раскасаць сваю размову з селянінам, які, жывучы у весцы сярод беларускага народу, стаіць за расійскую мову і даводзе, што нам трэба хутчэй пакінуць сваю мову і перавучыцца на велікарускую, або расійскую.

У нашай весцы есьць адзін дзядзька сярэдняга веку, сярэдняга дастатку. Колісь служыу ен у салдатах, чалавек разумны, удумчывы і нават, я сказау-бы, начытаны, бо, пачынаючы з 1905 г. ен перачытау шмат расійскіх кніжак, пераважна рэвалюцыйнага або звальняючага зьместу, якіе даставау ад рабочых у месьце. Але дзіуна, што ад чытаньня беларускіх кніжак і газэт ен няначай ухіляуся, а каб разумець расійскіе кніжкі,—прыдбау сабе слоунік чужамоуных слоу. Ен часам заходзіць да мяне па уласным справам, або так, пасядзець. Аднаго разу ен мне кажа:

— Вось вы складаеце свае кніжкі, пішаце у газэту па-нашаму, па-беларуску. Добрыя яны, а былі-б яшчэ лепшымі, каб былі напісаны па расійску...

— Што-ж яны,—незразумелы?—пытаюся.

нулася гарматная канонада. Расійцы нарэшці адступілі. Мы занялі Калкуны. Маем вялікую ваенную здабычу. Пачаліся моцные баі перад мостам жалезнае дарогі і перад умацаванымі непрыяцельскімі пазыцыямі пад Грываю.

**Бальшавікі зноу занялі Кіеу.** „Газэта Поранна" паведамляе, што вайна між вайскамі Пэглюры і Дэнікіна закончылася тым, што бальшавікі зноу занялі Кіеу.

## БЕЛАРУСКАЯ КРОНІКА.

**З'езд.** Менскі Беларускі Нацыянальны Камітэт мае замер склікаць у недалекім часе з'езд беларускіх нацыянальна-культурных арганізацыяу Меншчыны. Апрача дэлегатау, на з'езд маюць быць запрошаны некаторые беларускіе нацыянальна-культурные дзеячы з провінцыі.

**Беларуская гімназія у Горадне.** З пачатку селетняга году адкрываецца у Горадне Беларуская гімназія з 4 клясау.

**„Грамада Маладзежы".** У Горадне зарганізавалося таварыство беларускай моладзі пад назвай „Грамада Маладзежы", каторае ужо налічае каля 100 сяброу.

Мэта таварыства—азнаеміць беларускую моладзь з роднай мовай, літэратурай, гісторыяй і т. д. Пры таварыстве есьць сэкцыя драматычная. Таварыство маніцца скора выдаваць тыдневую газэту.

**Беларускі спісак кандыдатау у Віленскую Думу.** Пры выбарах у Віленскую меськую Думу усе беларускае грамядзянство (апроч беларускіх эс-эрау) выступіло са свэім агульным спіскам кандыдатау. На чале спіску сталць кандыдатуры п. п. Карабача, Умястоускага, Варановіча і др. Віленскі Беларускі Нацыянальны Камітэт, у зьвязку з выбарамі, выпусьціу адозву да Беларускага народу. Як спадзяюцца у Думу пройдзе ня меньш 2 прадстаунікоу ад беларусау.

**Коопэратыуна-гаспадарская сэкцыя пры Белар. Камітэце.** Пры Белар. Камітэце мае заснавацца коопэрат.-сельска-гаспадарская сэкцыя, якая мае заняцца заснаваньнем па Меншчыне беларускіх коопэратывау і сельска-гаспадарскіх хаурусау. Праз заснованые коопэратывы і хаурусы сэкцыя будзе нясьці дапамогу сялянам як прадуктамі, так і сельска-гаспадарскімі машынамі.

**Беларускіе вывескі.** У зьвязку з пераменай вывесак з надпісамі у расійскай мове, у некаторых мясцох зьявіліся вывескі у беларускай мове. Большасьць усе-ж вывесак робіцца у польскай мове, хоць офіцыяльна ня было прыказу аб тым, каб вывескі былі толькі у польскай мове. Дзіуным крыху здаецца, што ніводная урадовая установа, зьмяшчаючыся у Менску—сэрцы Беларусі, не дагадалася і не палічыла за абавязак перад беларускім грамадзянствам зрабіць свае вывескі у дзьвех мовах, а асабліва гэткую крыуду беларусы павінны мець да Магістрату, як зусім мясцовае установы. Яшчэ час паправіць гэтую біяду.

**Прадстаунікам Беларускага Нацыянальнага Камітэту** у Начальніка Менскай Округі п. Рачкевіча назначаны Камітэтам п. Антон Аусянік —член камітэту.

## МЕНСКАЕ ЖЫЦЬЦЕ.

**Камісія суспольнай апекі.** Магістратам прынята 11 верасьня пастанова аб організацыі Суспольнай Апекі пры аддзеле Апекі Сэкцыі Асьветы, для найбліжшай і найцальнейшай помачы беднай люднасьці м. Менска.

Камісія будзе складацца з дэлегатау ад павятовай рады, Глаунай Рады Апякунчай, Беларускага Нац. Камітэту і Жыдоускай гміны.

Заданьнем Камісіі будзе разгляд праэктау магістрату у справе грамядзянскай дапомачы, апрацаваньне уласных праэктау і усіленьне фундушау на гэтую справу.

**Школьным Інспэктарам г. Менску** зацьверджаны кандыдат Беларускай Школьнай Рады п. Ч. Родзевіч. Канцэлярыя інспэктара будзе мясьціцца на Захараускай вул., у б. Юбілейным доме, там дзе Беларуская Школьная Рада.

Праца у канцэлярыі распачынаецца ад сягодняшняга 15 верасьня.

**Духоуная Сэмінарыя** і школа злучаны у адну школу з курсам 8 клясных гімназій і 2-ма клясамі спэцыяльна багаслоускімі (дзеле падгатауленьня пастырау).

Гмах духоунай сэмінарыі гэтымі днямі асвабаждаецца.

Праца у школе мае пачацца 1-га кастрычніка.

**Рэгістрацыя** аграномау, лесаводау, каморнікау, тэхнікау і інжэнерау беларусау робіцца ад 12-га верасьня штодня ад 10 да 2 гадзіны у памяшканьні Беларускага Камітэту (б. Юбіл. дом).

**Пачтова-тэлеграфная зьвязь** Менска з провінцыяй уладжываецца у хуткім часе, пры чым цэнзура лістоу мае быць не у Варшаве, як цяпер, а тут.

Ужо прыймаюцца простые лісты дзеле адпраукі Менск-Кауказ-Сыбір.

**Бракаразводныя справы** учыненые у вялікім ліку бальшавікамі, абвешчаны цяпер духоунай праваслаунай уладай непраудзівымі, а духавенство, даушы шлюб па такім актам, будзе пярэдано суду.

Цяпер набралося шмат такіх спрау, пярэданых на перарашэньне епархіяльнай радзе (б. Кансысторыя), каторая учыняе гэты акт па усім дауней шым правілам.

**У судзе.** Старшынею менскага акружнага суда цэнтральнай польскай уладай назначаны адвакат К. А. Петрусевіч—б. юрысконсульт камітэту заходняга фронту В. З. С.

**Сало** апошнімі днямі падаражэло ад 15 да 18 руб. фунт.

**На карысьць места** будзе затрымана 1/2 дзяржаунага налогу, пасьля узысканьня яго ад насяленьня.

З прывозных прадуктау: хлеба, мяса, солі, малака, масла, яек, фуража, мукі і сала на карысьць места 3% налогу; са скур і гатовых вырабак 6%: з золата, серабра, шоуку, дарагіх каменьняу, аксаміту, касмэтыкі і др. 10%.

**Спэкуляцыя ці коопэрацыя?**

На такое пытаньне наводзяць спраyнкі адной з крамау так зв. Менскай Работніцкай Коопэрацыі па Захараускай вул., д. № 14, быуш. „Земкооператив". 12 верасьня з гэтай крамы прадавалася картопля, усім хто хацеу. Спачатку цана на картоплю была 10 рублеу і па гэтай цане прадавалі, але убачыушы, што ахвотнікау на картоплю есьць досыць, што каляя пакупцоу сабралася вялікая, п.п. „коопэратары" раптам аб'явілі новую цану—па 12 руб. за пуд.

Гэта выклікало, разумеецца, абурэньне і протэсты публікі, нічаму аднак ні дапамогшыя,—картопля далей прадавалася па 12 руб.

Калі гэта „работніцкая" коопэрацыя, дык чым жа яна рожніцца ад ваеннакупецкай спэкуляцыі?

## Допісы.

**Веска Грыневічы, Крайская вол., Вілейскага пав.** Прошлай зімой выпадкова папау да нас комплект „Вольнае Беларусі" за 1918 год. Я пачау чытаць артыкулы сялянам, якім гэта вельмі спадабалося. Я павінен адзначыць, што беларускай газэтай цікавіліся у нас болей усяго старые людзі. Мабыць у старых сялян дух беларускі болей моцны, чымся у маладых. Некалькі месяцау спытак „Вольнае Беларусі" пераходзіу з рук у рукі. Вершы людзі панавучаліся казаць на памяць. Усе пыталіся, дзе можна дастаць беларускіе кніжкі, але на жаль, кніжкі усе, як мы чулі, забралі бальшавікі, і мы не маглі дастаць.

Ад бальшавікоу мы вельмі цярпелі. Пастаянные рэквізыцыі зрабілі тое, што у хлеба робау адпала ахвота працаваць. Кожны стараuся засеяць столькі, колькі яму трэба на уласнае пражыцьце і то прыходзілося апошняе хаваць і жыць у пастаяннай трывозе.

Чулі мы, што арганізуецца беларускае войско. Дай Божа! У нас будзе шмат ахвотнікау.

**Адам Банэда.**

## Паведамленьне Польскага Гэн. Штабу.

Ад 8 верасьня 1919 г.

ФРОНТ Л.-БЕЛАРУСКІ. На цэлай пауночнай і пауночна-усходняй дзялянцы бальшавікі безрэзультатна атакавалі занятыя намі пазыцыі. Са спэцыяльнымі сіламі палег працiунік на дзялянцы Дзьвінска, Краслаукі і у районе возера Шо, але з цяжкімі стратамі быу адкінены.

ФРОНТ ВАЛЫНСКІ. Спакой.

Намесьнік Начальніка Гэнэральнага Штабу **Галлер**, палкоунік.

*Рэдактар-выдавец*
*Ядв. ЛУЦЭВІЧ.*

З дазвал. Цэнзуры. Друкарня Інвалідау, Менск.